

Арт: @rumadelima

# 1. ЗАТРЫМАННІ І СУДЫ

***Алесь Гарбуль***, паэт і краязнаўца, правёў адзіночны пікет супраць гвалту у Паставах 15 лістапада. Яго затрымалі і склалі пратакол па ч.1 ар.23.34. 18 лістапада Пастаўскі суд вынес Алесю папярэджанне.





***Вольгу Семчанка***, працаўніцу Магілёўскага драматычнага тэатру, затрымалі да суду за ўдзел у маршы памяці Рамана Бандарэнка 15 лістапада ў Магілёве.
Раней Вольгу ўжо двойчы прыцягвалі да адказнасці за ўдзел у несанкцыянаваных масавых мерапрыемствах.

Фота: Belsat



***Міхась Мішук***, мастак, аўтар адных з першых стрыт-артаў на мінскай Кастрычніцкай вуліцы ў 2012 годзе, атрымаў **13** сутак адміністратыўнага арышту.





***Ілля Ясінскі***, актор РТБД, быў затрыманы 15 лістапада і моцна збіты.
Ён знаходзіцца ў шпіталі са зламанымі пазванкамі спіны.



***Эдварду Дмухоўскаму***, вядомаму краязнаўцу, экскурсаводу і грамадскаму актывісту, прысудзілі **10** содняў адміністратыўнага арышту за ўдзел у акцыі памяці Рамана Бандарэнкі 15 лістапада.



***Тарас Круцкіх (Тарналіцкі)***, журналіст і кінакрытык, затрыманы ў нядзелю 15 лістапада, атрымаў **25** сутак арышту.



***Аляксандр Сакалоў***, скульптар, затрыманы 15 лістапада, атрымаў **15** сутак арышту.




***Вадзім Дзмітранок***, вядомы архітэктар і былы сябра ініцыятыўнай групы Віктара Бабарыкі, 15 лістапада быў затрыманы і жорстка збіты. Вадзім знаходзіцца ў шпіталі хуткай дапамогі з закрытай чэрапна-мазгавой траўмай, шматлікімі гематомамі і падазрэннем на цяжкія пашкоджанні ўнутраных органаў.
Яго ахоўвае канвой, бо цяпер ён падазраваны па крымінальнай справе паводле артыкулу 342 Крымінальнага кодэксу.





***Максім Каржыцкі***, акцёр Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа, быў затрыманы 17 лістапада за тое, што выйшаў да помніка ўшанаваць памяць Рамана Бандарэнкі.
20 лістапада суд пакараў Максіма **10** суткамі арышту.

***Дзяніс Варонскі*** і ***Аляксандр Шкіранда***, вулічныя музыкі, якіх затрымалі ў пераходзе Плошчы Якуба Коласа раніцай 20 лістапада, атрымалі **12** і **13** сутак адміністратыўнага арышту за "ўдзел у культурна-відовішным масавым мерапрыемстве без дазволу Мінгарвыканкама".








**ЗАТРЫМАНЫЯ ПАДЧАС МАРШУ РАЁНАЎ 22 ЛІСТАПАДА:**

— ***Ілля Чарапко-Самахвалаў,*** акцёр, вакаліст гуртоў "Петля Пристрастия" і "Кассиопея" (пакараны **15** суткамі арышту);
— ***Цімур Рэйзіс***, клавішнік "АддисАбебы" і праектаў ***Сяргея Пуксты*** (атрымаў **13** сутак адміністратыўнаа арышту);
— ***Яўген Юнаў***, фатограф, удзельнік культавай арт-групы "Беларускі клімат", легенда беларускага рэкламнага рынку.

Фота: Facebook. Арт: @savichz

# 2. ЦІСК, ЗВАЛЬНЕННІ, АДЛІЧЭННІ, ЗАБАСТОЎКА




**ЦІСК НА ХОР "УНІЯ"**



Ужо тры ўдзельнікі калектыва пабывалі за кратамі.
Была затрыманая і аштрафаваная таксама ***Марына***, жонка вядучага саліста ***Аляксандра Шыка***.
У Аляксандра і Марыны трое сыноў, адзін з іх прыёмны, ён у іхнай сям'і ўжо пяць гадоў. Органы апекі пагражаюць сям'і, што адбяруць прыёмнага сына за іх удзел у мірным пратэсце.



***Мікалай Стонька***, акцёр Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, пасля таго як яго калегу ***Іллю Ясінскага*** затрымалі і збілі, звольніўся і запісаў зварот з асуджэннем ціску на тэатр і беспрэцэдэнтнага гвалту ў краіне.



***Яўген Малікаў***, літаратар і мастацтвазнаўца з Магілёва, аўтар кнігі "Традыцыі разьбянога дэкору ў народнай архітэктуры паўднёва-ўсходняй Беларусі (канец XIX-першая палова XX ст.)", быў звольнены з БелГУТа, дзе ён працаваў 16 гадоў, праз актыўную грамадзянскую пазіцыю.

***Тры спецыялісты Цэнтра эксперыментальнай рэжысуры Акадэміі мастацтваў***, сярод якіх ***Юлія Альшэўская***, вядучая спецыялістка і рэжысёрка, напісалі паведамленні на імя рэктара аб пачатку забастоўкі 20 лістапада.

У адказ дэкан паведаміў спецыялістам, што, хутчэй за ўсё, іх Цэнтр эксперыментальнай рэжысуры будзе расфармаваны.





Ректору БГАИ
М.Г. Борозне
специалиста ведущего
Центра экспериментальной режиссуры
Ю.Н. Ольшевской

УВЕДОМЛЕНИЕ
о приостановке работы

Я, Ольшевская Юлия Николаевна, уведомляю вас, что в связи с политическим кризисом в стране, репрессиями и избиениями мирных граждан, незаконными увольнениями и отчислениями студентов, в том числе в нашей Академии, а также в знак солидарности с медиками и рабочими на заводах с 19 ноября 2020 года приостанавливаю выполнение своих служебных обязанностей, как на рабочем месте, так и дистанционно, и, согласно Конституции РБ, Международного пакта ООН «Об экономических, социальных и культурных правах», принятого резолюцией 2220 А (XXI) Генеральной Ассамблеи от 16 декабря 1966 года и вступившего в силу для Республики Беларусь 3 января 1976 года, а также следуя статьям ТК 388-399, объявляю о моем присоединении к общенациональной забастовке.

До тех пор, пока не будет остановлено насилие в отношении мирных граждан со стороны силовых структур, пока виновные в пытках, давлении, унижении и насилии не понесут достойного наказания, пока не будут освобождены все политические заключенные и восстановлены отчисленные студенты всех вузов страны по причине их гражданской позиции, а также до проведения новых честных выборов я не намерена приступать к выполнению своих служебных обязанностей.

29.11.2020 Ю.Н. Ольшевская

Фота: euroradio.pl



Трупа ***Новага драматычнага тэатра*** 27 кастрычніка далучылася да Агульнанацыянальнай забастоўкі, за што адміністрацыя тэатра падала на іх у суд.
18 лістапада суд прызнаў забастоўку незаконнай.
У выніку ***12 акцёраў*** і ***3 супрацоўнікі*** напісалі заявы аб звальненні, двое з іх – пад ціскам адміністрацыі тэатра.

Па загадзе зверху, акторам НДТ забаронена браць у іншыя дзяржаўныя тэатры.

# 3. АДКРЫТЫ ЛІСТ ПІСЬМЕННІЦКАЙ СУПОЛЬНАСЦІ




**БЕЛАРУСКІЯ ЛІТАРАТАРЫ ЗВЯРТАЮЦЦА ДА ЎЛАДАЎ, КІРАЎНІКОЎ ДЗЯРЖАЎНЫХ СТРУКТУРАЎ І ЧЫНОЎНІКАЎ З ЗАКЛІКАМ СПЫНІЦЬ МАСАВЫЯ РЭПРЭСІІ І ЗДЗЕКІ З ЛЮДЗЕЙ, ЯКІЯ ХОЧУЦЬ ПЕРАМЕНАЎ, ПРЫЗНАЦЬ СВАЮ ПАРАЗУ І ПРЫНЯЦЬ ВОЛЮ НАРОДА!**
**СЯРОД ПАДПІСАНТАЎ – СВЯТЛАНА АЛЕКСІЕВІЧ, ЛЯВОН ВОЛЬСКІ, УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ І 200 ІНШЫХ ЛІТАРАТАРАЎ І ЛІТАРАТАРАК.**



# 4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ



Фота: Belsat

**СТУДЭНТЫ І СТУДЭНТКІ АКАДЭМІІ МАСТАЦТВАЎ ЗЛАДЗІЛІ ПЕРФОРМАНС ПАМЯЦІ РАМАНА БАНДАРЭНКІ 20 ЛІСТАПАДА.**








Цікавая гутарка з вольнымі ***купалаўцамі*** – можна паглядзець тут.




***Ганна Шаркунова*** напісала шчымлівую песню, прысвечаную забітаму ***Раману Бандарэнку***.




Канцэрт у падтрымку ***хора "Унія"*** адбыўся 21 лістапада.
Запіс можна паглядзець па спасылцы і зрабіць ахвяраванне.

Нягледзячы на разгоны і затрыманні, ***людзі*** працягваюць ладзіць дваровыя актыўнасці.
На канцэрт у Сухарава 19 лістапада прыехаў узброены АМАП. ***Музыкі*** паспелі схавацца, але ***сілавікі*** забралі апаратуру і ахвяраванні, якія зрабілі жыхары, каб падзякаваць музыкам.



# 5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ

**МІКАЛАЙ ХАЛЕЗІН, СУЗАСНАВАЛЬНІК І КІРАЎНІК БЕЛАРУСКАГА СВАБОДНАГА ТЭАТРУ І ГРАМАДЗКІ ДЗЕЯЧ, ПРА ЭКАНАМІЧНЫЯ САНКЦЫІ І РОЗНЫЯ ФАРМАТЫ МІРНАГА ПРАТЭСТУ:**

***“Вонкавы ціск архіважны. Ёсць унутраны ціск народу на рэжым, а ёсць вонкавы ціск. Калі яны не сінхронныя, то ідзе перакос у той ці іншы бок. Атрымліваецца, што сядзіць чыноўнік у Еўропе і глядзіць скрозь пальцы на тое, як выбухаюць гранаты і як страляюць у людзей. Такой сытуацыі быць не можа. Усё патрабуе часу — каардынацыя, перастуктураванне, ціск”.***



Музыкі з гурта ***Irdorath***, якія на маршах граюць на дудах і за гэта былі звольненыя з працы:
***“У цэлым наша творчасць абстрактная і ніколі не была сацыяльнай. Гэта быў сыход ад шэрай рэальнасці ў свет славянскага фэнтэзі, сярэднявечных легенд, народных песень. Але сыходзіць ад рэальнасці цяпер непрыгожа”.***





**АНДРЭЙ НОВІК І МІКАЛАЙ СТОНЬКА,**
**АКЦЁРЫ, ЯКІЯ ЗВОЛЬНІЛІСЯ З РТБД НА ЗНАК ПРАТЭСТУ.**

**"КАЛІ ТВАЙГО КАЛЕГУ ПАКАЛЕЧЫЛІ, ГЭТА СОРАМ — ВЫХОДЗІЦЬ НА СЦЭНУ, НАВАТ КАЛІ ТЫ ПРЫСВЯЧАЕШ ЯМУ СПЕКТАКЛЬ. Я ДУМАЮ, ТЭАТР ПАВІНЕН БЫЎ СКАЗАЦЬ: "НЕ! МЫ НЕ БУДЗЕМ ПРАЦАВАЦЬ", ХОЦЬ Я ВЕДАЮ, ШТО КОЖНЫ ТАМ РОБІЦЬ ДЛЯ ПЕРАМОГІ ТОЕ, ШТО МОЖА"**

***"Міністэрства культуры і дагэтуль цэнзуравала тэатр, але пасля выбараў ціск узмацніўся. Мы з гэтым змагаліся, як маглі, але сітуацыя пагаршалася ўсё больш,*** — расказвае Мікалай. — ***Пакуль мы прыдумлялі спосабы выказаць сваю грамадзянскую пазіцыю — у нас былі "мастацкія" знакі салідарнасці ў спектаклях альбо на паклоне, і гледачы іх разумелі, — нам забаранялі то адно, то другое, то трэцяе. Я зразумеў, што не магу выйсці на сцэну і ўвогуле нічога не рабіць. Выступленне перад кантралёрамі было б здзелкай з сумленнем, нават калі я выказваюся за сценамі тэатра і ўсе і без таго разумеюць, што я не ябацька"***

***Ілля Ясінскі*** пасля затрымання 15 лістапада трапіў у бальніцу хуткай дапамогі. Ён расказаў «Нашай Ніве», што адбылося.
Пераломы адросткаў двух пазванкоў – такі дыягназ паставілі дактары. Найбліжэйшыя 5-7 дзён Ілля правядзе ў бальніцы, а зрастацца пераломы будуць 1.5-2 месяцы. Акцёр павінен быў граць у спектаклі “Кар'ера доктара Рауса” ў РТБД, і на знак салідарнасці падчас спектакля калегі паставілі на яго месцы пустое крэсла.
***"Можаце зламаць хрыбціну, але дух не зламаеце"***, – кажа Ілля.







Фота: Наталля Фядосенка/ТАСС

**СВЯТЛАНА АЛЕКСІЕВІЧ, ПІСЬМЕННІЦА, НОБЕЛЕЎСКАЯ ЛАЎРЭАТКА, СТАРШЫНЯ БЕЛАРУСКАГА ПЭН-ЦЭНТРА, У ІНТЭРВ’Ю РАДЫЁ “СВАБОДА” ПАДЗЯЛІЛАСЯ СВАІМІ ДУМКАМІ ДАТЫЧНА КІРАВАННЯ ПРАТЭСТАМІ БЕЛАРУСІ І АБ ЭКЗІСТЭНЦЫЙНЫХ ПРАБЛЕМАХ БЕЛАРУСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ:**

**“ЛЮБУЮ «АДЛІГУ», ЛЮБЫ РЫВОК НАПЕРАД НЕМАГЧЫМА АДКАЦІЦЬ ДА КАНЦА, У МІНУЛАЕ ВЯРНУЦЦА ЎЖО НЕМАГЧЫМА. НАРОД НЕ ХОЧА ЖЫЦЬ ТАК, ЯК ЁН ЖЫЎ ДА 1990 ГОДУ. І ЁН НЕ БУДЗЕ ТАК ЖЫЦЬ – НІКОЛІ. ЛЮДЗІ ХОЧУЦЬ ЕЗДЗІЦЬ ПА СВЕЦЕ, ЧАЛАВЕК ХОЧА, КАБ ЯГО ДЗЕЦІ ВУЧЫЛІСЯ ТАМ, ДЗЕ ХОЧУЦЬ. МОЛАДЗЬ, КАЛІ ЁЙ РАСКАЗВАЕШ ПРА ТОЕ ЖЫЦЦЁ, ПРОСТА НЕ ВЕРЫЦЬ, ШТО ТАК БЫЛО. А БЫЛО, І ЗУСІМ НЯДАЎНА. ГЭТА ЎСЁ РОЎНА ПАКІДАЕ СЛЕД І ВЫКЛІКАЕ НАСТУПСТВЫ.КАЛІ Б НЕ БЫЛО ХРУШЧОЎСКАЙ «АДЛІГІ», НЕ БЫЛО Б ПЕРАБУДОВЫ І 90-Х. НЕ БЫЛО Б 90-Х, НЕ АДБЫВАЛІСЯ Б ТЫЯ РЭЧЫ, ЯКІЯ АДБЫВАЛІСЯ ЎЖО Ў XXI СТАГОДДЗІ Ў ГРУЗІІ, ВА УКРАІНЕ, У АРМЕНІІ, ЦЯПЕР У НАС. ЗМЕНЫ АДБЫВАЮЦЦА, ТОЛЬКІ ПАВОЛЬНА І ЧАСАМ, ЯК У НАС, БАЛЮЧА”.**

# 6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ




***Амбасада незалежнай беларускай культуры*** адкрылася 17 лістапада ў Брне (Чэшская Рэспубліка), пры ***Цэнтры эксперыментальнага тэатра***.
Сэнс заснавання амбасады – папулярызацыя беларускай незалежнай культуры, якая цяпер у Беларусі знаходзіцца пад значным уціскам. У той жа час амбасада будзе спрыяць таму, каб жыхары Чэхіі мелі лепшы доступ да інфармацыі аб актуальных падзеях у Беларусі.
***Сяргей Сматрычэнка***, перакладчык, рэдактар і сябра Беларускага ПЭН-цэнтра, стаў першым амбасадарам.

Азнаёміцца з бліжэйшымі планамі Амбасады незалежнай беларускай культуры ў Чэшскай Рэспубліцы можна па спасылцы.



Выстава ***“Новае беларускае мастацтва”*** праходзіць у нямецкім горадзе Любек.




***Беларускі Свабодны тэатр*** атрымаў прэмію Магніцкага ў галіне правоў чалавека 2020 года ў намінацыі "Мужнасць пад агнём".
Сваю прэмію тэатр прысвяціў ахвярам цяперашняй беларускай улады:

**"БЕЛАРУСКІ СВАБОДНЫ ТЭАТР ПРЫСВЯЧАЕ ГЭТЫ ПРЫЗ ПАМЯЦІ ВІКТАРА ГАНЧАРА, АНАТОЛЯ КРАСОЎСКАГА, ЮРЫЯ ЗАХАРАНКІ, ДЗМІТРЫЯ ЗАВАДСКАГА, ГЕНАДЗЯ КАРПЕНКІ, АЛЯКСАНДРА ВІХОРА, АЛЯКСАНДРА ТАРАЙКОЎСКАГА, ГЕНАДЗЯ ШУТАВА, МІКІТЫ КРЫЎЦОВА, КАНСТАНЦІНА ШУШМАКОВА, ДЗЯНІСА КУЗНЯЦОВА І РАМАНА БАНДАРЭНКІ".**

***Фінскія культурныя дзеячы*** запісалі відэазварот у падтрымку беларускага народа.
***"Беларусы больш за 100 дзён змагаюцца за справядлівасць і незалежнасць. У гэтых складаных умовах, калі гвалт і прыгнёт працягваюцца, мы хочам выказаць падтрымку нашым беларускім калегам і беларускаму народу ў іх імкненні да свабоды".***

***Выпускнікі Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі*** запісалі відэазварот, у якім яны патрабуюць вызваліць ***Марыю Калеснікаву*** і ўсіх палітзняволеных, а таксама спыніць рэпрэсіі супраць беларускага народа.

# 7. РОЗНАЕ



Арт: Арцём Ласкутоў

**ШМАТЛІКІЯ СВЕДКІ РАСПАВЯДАЮЦЬ ПРА ЗНЯВАЖЛІВАЕ СТАЎЛЕННЕ ДА БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛАГА СЦЯГА З БОКУ СІЛАВІКОЎ. ЧАСТА СЦЯГ, КАНФІСКАВАНЫ Ў КАГОСЬЦІ З ЗАТРЫМАНЫХ, РАСКЛАДВАЮЦЬ НА ПАДЛОГУ АЎТАЗАКА І ПРЫМУШАЮЦЬ ЗАТРЫМАНЫХ ІСЦІ ПА ІМ, АЛЬБО САМІ ТОПЧУЦЬ І ВЫЦІРАЮЦЬ НОГІ АБ ЯГО, ВЫКІДАЮЦЬ У СМЕТНІЦУ.**



19 лістапада ***Лукашэнка*** адправіў у адстаўку міністра культуры ***Юрыя Бондара***, замяніўшы яго ***Анатолем Маркевічам***. Маркевіч – былы памочнік Лукашэнкі па Брэсцкай вобласці, да гэтага ён працаваў настаўнікам і дырэктарам школы, намеснікам старшыні Карэліцкага райвыканкама, старшынём Карэліцкага раённага Савета дэпутатаў.

Гэты матэрыял падрыхтаваны ў супрацы *Беларускім ПЭН-цэнтрам* і *Беларускім фондам культурнай салідарнасці*.







Інфармацыйны партнёр - партал TuzinFM.by




## КАНТАКТЫ

E-mail: BFKS2020@protonmail.com
Telegram: @by_culture
Facebook: https://www.facebook.com/bcsfbel
YouTube: http://bit.ly/youtube-byculture
Twitter: @BYCULTUREFUND

## ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ

можна, падтрымаўшы кампанію ***Save our Songs*** і

***Беларускі фонд культурнай салідарнасці***

